№ 152 (274)

Аўторак, 2 верасня 1997 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**



Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"





**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 6.06 | 19.52 |
| Магілёў | 6.08 | 19.49 |
| Гомель | 6.07 | 19.44 |
| Мінск | 6.17 | 20.00 |
| Гродна | 6.34 | 20.14 |
| Брэст | 6.37 | 20.12 |

*Поўня 2 верасня.*









**Незалежная экспертыза**

*Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар*

## Якая тэндэнцыя пераможа: прагрэсіўная ці рэгрэсіўная,

### або Ці выратуе калгасна-саўгасную сістэму санацыя?

У сельскай гаспадарцы Рэспублікі Беларусь на фоне агульнага глыбокага эканамічнага крызісу ідзе барацьба дзвюх тэндэнцый. Адна рэгрэсіўная, трыманне за калгасна-саўгасную сістэму, якая даўно зжыла сябе і, бачна па ўсім, не мае будучыні, і прагрэсіўная — няўхільнае, без усялякай фінансавай і арганізацыйнай падтрымкі з боку дзяржавы развіццё асабістай падсобнай гаспадаркі, а таксама фермерскай. Чым закончыцца гэтая барацьба, вядома — у рэшце рэшт пераможа прагрэсіўны сектар, заснаваны на прыватнай уласнасці і вольнай працы. Уся праблема ў тым, як доўга чакаць гэтай перамогі.

Сапраўды, жыццё апошнім часам з усёй пераканаўчасцю паказвае больш высокую эфектыўнасць, канкурэнтаздольнасць і ўстойлівасць вытворчасці ў асабістай падсобнай гаспадарцы ў параўнанні з буйнымі калгасамі ды саўгасамі. І гэта нягледзячы на ўжыванне конна-ручных тэхналогій і адсутнасць як вертыкальнай інтэграцыі, так і фінансавай падтрымкі дзяржавы, без штабоў, бітв за ўраджай і селектарных нарад. Усё трымаецца на прыватнай уласнасці, вольнай працы і ініцыятыве.

Прагрэсіўнасць і будучыня прыватнага сектара ў сельскай гаспадарцы з усёй відавочнасцю праяўляецца ў тым, што пачынаючы з 1990 года і па сённяшні дзень назіраецца ўстойлівы рост аб'ёму вытворчасці ў падсобнай гаспадарцы і нарошчванне яго ўдзельнай вагі ў агульным аб'ёме вытворчасці. Калі ў 1990 годзе ўдзельная вага асабістых падсобных гаспадарак у агульным аб'ёме вытворчасці сельгаспрадукцыі складала 25 працэнтаў, то ўжо ў 1996 годзе — 46 працэнтаў. А доля грамадскага сектара знізілася адпаведна з 75 да 54 працэнтаў. Чакаецца, што сёлета, альбо ў будучым годзе два сектары параўнаюць свае агульныя паказчыкі.

Начальнік аддзела прагназавання сельскагаспадарчай вытворчасці Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Дзмітрый Віркоў тлумачыць узлёт прыватнага сектара тым, што ўсе жадаючыя на вёсцы за апошнія гады маглі атрымаць і атрымалі да аднаго гектара зямлі. Але ж у калгасах і саўгасах зямлі ў пяць разоў болей, а агульныя вынікі вытворчасці амаль роўныя. За шэсць апошніх гадоў вытворчасць мяса ў калгасах і саўгасах знізілася на 54 працэнты, малака — напалавіну, бульбы — на 59 працэнтаў, гародніны — на 54 працэнты. Прычым вытворчасць малака на 34 працэнты знізілася па прычыне спаду прадукцыйнасці жывёлы. Факт застаецца фактам, за аналізуемы час пагалоўе буйной рагатай жывёлы ў калгасах і саўгасах зменшылася аж на 2 млн. галоў.

А ў гэты час у асабістых падсобных гаспадарках, колькасць якіх 1,5 млн. адзінак разам з фермерскімі гаспадаркамі, і зямлі ў іх толькі па 0,75 га на гаспадарку, вытворчасць валавой прадукцыі павялічылася на 40 працэнтаў, зерня — у 6 разоў, бульбы — у 2 разы, гародніны — у 4, малака — на 14 працэнтаў.

Парадокс, але калі і ёсць прырост сельскагаспадарчай вытворчасці, якім выхваляецца начальства, то не за кошт грамадскай вытворчасці, куды ідуць трыльёны рублёў дапамогі і крэдытаў, а за кошт энтузіязму прыватнікаў.

Правільна, рост вытворчасці ў прыватным сектары, несумненна, звязаны з тым, што павялічыўся зямельны клін у падсобных гаспадарках. Але ў большай ступені гэта звязана з рознай эфектыўнасцю вытворчасці. Так, у асабістых падсобных гаспадарках на ўмоўную галаву жывёлы выхад валавой прадукцыі жывёлагадоўлі на 40 працэнтаў большы, чымся ў калгасах ды саўгасах.

Калі параўнаць аб'ёмы вытворчасці ў разліку на адзінку зямлі, то і тут перавагі падсобнай гаспадаркі таксама відавочныя. Так, у мінулым годзе асабістыя падсобныя гаспадаркі атрымалі малака ў разліку на гектар выкарыстоўваемай зямлі ў 3,7 раза і мяса ў 2 разы болей, чым у грамадскім сектары.

У Міністэрстве сельскай гаспадаркі зліквідавалі аддзел, які займаўся падсобнай гаспадаркай, а між тым у рукі гэтага сектара перайшла ініцыятыва не толькі ў вытворчасці бульбы, гародніны і садавіны — (80—90%), але паслядоўна пераходзіць узнаўленчая роля і ў галіне жывёлагадоўлі. Гэта відаць на прыкладзе свінагадоўлі. У калгасах і саўгасах засталося толькі каля 20 тыс. свінаматак. Летась іх колькасць зменшылася амаль удвая. А ў прыватным сектары іх 135 тыс. галоў, альбо амаль у шэсць разоў болей. Дык хто вызначае сёння ўзнаўленчы працэс у свінагадоўлі?

У заняпадзе ў калгасах і саўгасах і такая галіна, як пчалярства. Засталося дзесь 2000 сем'яў, а ў прыватным сектары — аж 290 тыс. пчаліных вулляў.

Вельмі ў цяжкім фінансавым становішчы калгасы ды саўгасы, што непакоіць вышэйшыя ўлады. Бюджэт, крэдытная сістэма рэспублікі ўжо не могуць далей атрымліваць непамерныя ўліванні ў аграрны сектар. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка пад час нядаўняга наведвання Гомельскай вобласці невыпадкова заявіў, што надалей дзяржава не будзе фінансаваць калгасы ды саўгасы ў такім памеры, як сёння. І параіў самім шукаць выйсце са становішча, прыстасоўвацца да рынку. А міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Лявонаў лічыць, што аздараўленню фінансавага стану аграрнага сектара будзе садзейнічаць санацыя стратных калгасаў ды саўгасаў. І яшчэ міністр заявіў, што ў гэтым годзе калгасы да саўгасы атрымалі 6 трыльёнаў рублёў дзяржаўных датацый (на сёння з улікам фінансавання жніва ўжо 7 трыльёнаў), а страцяць яны ад фіксаваных (значыць, на думку міністра, заніжаных) цэн 30 трыльёнаў рублёў. Гэтую ідэю Васіль Лявонаў выказваў не адзін раз. Але яна спрэчная. Сёння цэны на прадукты харчавання ў рэспубліцы сусветныя, а зарплата — беларуская, гэта значыць жабрачая. І апроч гэтага, спажыўцы, на разлік аналітыкаў, фактычна плацяць яшчэ адну цану за харчаванне, бо, напрыклад, леташнія 11,5 трыльёна рублёў, што пайшлі ў сельскую гаспадарку праз фінансаванне і льготнае крэдытаванне, гэта ж у рэшце рэшт не што іншае, як незаплачаныя грошы людзям, вылік з іх заробкаў.

Што датычыцца санацыі калгасаў ды саўгасаў, то гэтая ідэя слушная. Але не ў задуманым плане. Я звярнуўся ў Міністэрства сельскай гаспадаркі за тлумачэннем. Ва ўпраўленні эканомікі мне паведамілі, што праводзіць эканамічныя рэформы ў сельскай гаспадарцы і фінансавае аздараўленне практычна немагчыма з-за адсутнасці законаў ці карэнных паправак да законаў "Аб банкрутстве", "Аб рыначнай адаптацыі", закона аб дзяржаўным рэгуляванні". Маўляў, трэба цвёрда запісаць у законе, што 20 працэнтаў даходнай часткі бюджэту павінны скарыстоўвацца ў сельскай вытворчасці. З гэтага відаць, што сур'ёзных падставаў для рэфармавання сельскай гаспадаркі і фінансавага аздараўлення галіны сёння пакуль няма.

А па пытанню санацыі калгасаў, якое вылучыў сам міністр сельскай гаспадаркі і харчавання, ва ўпраўленні рэфармавання, рэструктурызацыі, новых формаў гаспадарання і сацыяльнага развіцця (ёсць, аказваецца, і такое мудрагелістае ўпраўленне) мяне пазнаёмілі з праектам пастановы Саўміна "Аб мерах па санацыі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў". Праект пастановы мае 9-ую рэдакцыю (!). Пры яго ўзгадненні міністэрствы і ведамствы не даюць згоды. І справа стаіць на мёртвай кропцы.

Сама ідэя санацыі палягае на тым, "каб ажыццяўляць працэдуры па змене правоў уласнасці, дамоўных і іншых абавязацельстваў сельгаспрадпрыемстваў, а таксама магчымую іх рэструктурызацыю з мэтаю аднаўлення рэнтабельнасці вытворчасці". І гэта, відаць, нядрэнна. Але што датычыцца самога зместу пастановы аб санацыі, то ўзнікаюць прынцыповыя пярэчанні міністэрстваў і ведамстваў. Напрыклад, Міністэрства фінансаў выступае супраць адтэрміноўкі таварных крэдытаў да 2000 года. А таксама спісання запазычанасці па пазыках, выдадзеных з бюджэту і рэспубліканскага пазабюджэтнага фонду падтрымкі вытворцаў.

Не знаходзіць падтрымкі таксама рэкамендацыя аблвыканкамам, райвыканкамам прыняць на свой баланс, са згоды ўласнікаў, аб'екты сацыяльнай сферы саніруемых прадпрыемстваў. Не дазваляюць дзіравыя бюджэты.

Што датычыцца перадачы часткі зямлі ці маёмасці саніруемых гаспадарак суседнім калгасам ці саўгасам, то не знаходзіцца ахвочых, каб надзець на сябе дадатковы хамут. Няма таксама жадаючых і сярод буйных прадпрыемстваў узяць банкрутаў пад сваё крыло і выкарыстоўваць іх землі і маёмасць для вядзення падсобнай гаспадаркі. Бо куды дзець мясцовае працаздольнае жыхарства, калі хапае і сваіх беспрацоўных?

Ды справа не толькі і не столькі ў змесце згаданай пастановы. Але ў тым, што яна задумана не як дзея, а як эксперымент. Саніраваць намечана па адной гаспадарцы ў раёне, усяго дзесь 120 гаспадарак. Так бы мовіць да прыкладу. Гэта дзесь 4 працэнты гаспадарак. Так што нават калі санацыя пройдзе паспяхова, гэта нічога не дасць. Так лічаць адказныя работнікі міністэрства і аўтар гэтага артыкула.

**Слышали?**

## Виктором Гончаром опять заинтересовались органы

*В пятницу утром в принудительном порядке был доставлен в городскую прокуратуру Минска депутат Верховного Совета 13-го созыва Виктор Гончар.*

В постановлении о принудительном приводе Виктор Иосифович Гончар значился как подозреваемый. Как отметил следователь городской прокуратуры Геннадий Бурштын, он вызывался для разъяснений деятельности возглавляемой им специальной комиссии Верховного Совета 13-го созыва по правовой оценке нарушений президентом Республики Беларусь Лукашенко Конституции и законов Республики Беларусь. Напомню, что два месяца назад после растиражирования комиссией первой части своего Заключения под названием "Конституция 1996 года — захват государственной власти" городская прокуратура проводила проверку деятельности самой этой комиссии, а сам Виктор Гончар давал в прокуратуре Советского района города Минска необходимые пояснения.

Сегодня, заявил Виктор Гончар, по факту деятельности возглавляемой им комиссии возбуждено уголовное дело по части 2 статьи 128 Уголовного кодекса Республики Беларусь (клевета, соединенная с обвинением в совершении особо опасного государственного или иного тяжкого преступления), за ходом следствия которого лично следит Генеральный прокурор республики Олег Божелко.

Виктор Гончар считает, что в пятницу была предпринята попытка допросить его как подозреваемого. В квартире Гончара был даже проведен обыск. Представители следственных органов пытались найти материалы и рабочие наброски плана деятельности комиссии. "Учитывая, что в ходе следствия допускается такая правовая дикость, — отметил Виктор Иосифович, — я отказался от участия в следственных действиях и сделал официальное заявление, что материалы специальной комиссии Верховного Совета по правовой оценке нарушений президентом Лукашенко Конституции и законов Республики Беларусь дают достаточные основания для возбуждения уголовного дела в отношении гражданина Лукашенко, по которому я готов выступить в качестве свидетеля".

В тот же день в прокуратуре Гончара проинформировали, что у следствия на этом этапе нет к нему других вопросов, и уже в пятницу днем Виктор Иосифович был дома.

Надолго ли?

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**На снимке:** *Виктора Гончара не пускают в служебный кабинет Центризбиркома (1996 г.).*

**Сумна!**

## Калі на заводах закрываюцца сталовыя, бо туды ніхто не ходзіць, дык аб якім паляпшэнні жыцця можна весці гаворку?

*Сумную інфармацыю сабралі з прадпрыемстваў работнікі прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці. На большасці з іх закрываюцца сталовыя, бо рабочым няма за што паабедаць і яны працуюць на "галодны жывот" альбо сілкуюцца ў сухамятку — бутэрбродамі, прыхопленымі з дому.*

Так, у вытворчым аб'яднанні "Інтэграл" летась харчавалася 16 тысяч працуючых. Сёння засталіся толькі буфет на 80 месцаў і адзін зал на 500 чалавек. Параўнайце: 16 тысяч і 580 чалавек. На заводзе "Транзістар" у 1996 годзе ў сталоўцы было 830 пасадачных месц, сёлета — 80. На прадпрыемстве "Рытм" горада Рэчыцы была сталовая з трыма заламі на 200 месц кожны. Сёлета не засталося нічога. У вытворчым аб'яднанні "Карал" з трох абедзеных залаў (700 месц) працуе толькі адзін на 200 чалавек. На Гомельскім радыёзаводзе з пяці абедзеных залаў (1000 месц) адкрываецца ў гэтыя дні адзін (200 месц). На віцебскім заводзе "Эвістар" былі дзве сталовыя на 500 чалавек кожная і два буфеты. Цяпер усё закрыта.

Такі спіс можна працягваць доўга. Адзначым толькі, што і тыя залы, якія пакуль адчыняюцца ў абед, у асноўным паўпустыя. Так, у вытворчым аб'яднанні "Маналіт", што на Віцебшчыне, летась працавалі сталовая на тысячу пасадачных месц, тры буфеты. Сёлета буфеты закрыты, а сталоўку наведвае 25—30 чалавек.

Гэтыя факты ярчэй за ўсё высвечваюць падзенне жыццёвага ўзроўню працоўных.

**Сяргей КАВАЛЬЧУК.**

**Из первых уст**

## Павел Шеремет заявляет, что после освобождения будет работать в Беларуси

*В то время, когда в Минске Александр Лукашенко встречался с министром иностранных дел России Евгением Примаковым, к следственному изолятору города Гродно подъезжала машина с адвокатом Гарри Погоняйло. Гарри Петрович не знал тогда, о чем договорятся в резиденции белорусского президента Лукашенко и Примаков, и не мог, конечно, сообщить о результатах встречи Павлу Шеремету. Тем не менее небезынтересно знать, о чем он говорил в тот день со своим подзащитным.*

— Эта была моя обычная рабочая поездка, — говорит Гарри Погоняйло, — запланированная встреча с Шереметом. Пока я добивался разрешения на свидание, оформлял необходимые бумаги, в изолятор попал только после обеда. Я, конечно, знал, что в Беларусь прилетел Примаков, что у него здесь гамма вопросов, в том числе и о задержанных журналистах ОРТ, но о чем они договорились — я не знал.

Кстати, 28 августа было отложено дело по жалобе адвоката в отношении Дмитрия Завадского по освобождению его из-под стражи. По каким причинам, я не знаю.

**— Как чувствует себя Павел?**

— Нормально. Бледноватый, правда, потому что солнышко он видит редко. И как я говорил раньше, у него все-таки развивается бронхит: в изоляторе сыро и холодно.

**— А условия содержания какие?**

— Содержится Павел в общей камере вместе с еще тремя задержанными. Кто они, в чем обвиняются, я у Павла не спрашивал.

Газет мой подзащитный так и не получал, телевизор тоже не работал. В этот день отец Павла передал ему еще один телевизор, третий. Два первых по каким-то причинам в камере не работали, ломались.

**— А отцу разрешили встретиться с сыном?**

— Нет. Со мной приехали в Гродно также мать и жена Дмитрия Завадского, которому в этот день исполнилось 25 лет, и им тоже было отказано в свидании.

**— Значит, вы были единственным человеком, от которого Павел узнавал, что происходит в республике?**

— Получается, что так.

**— И вы, конечно же, ему сказали о встрече Примакова с Лукашенко. Как Павел отреагировал на это?**

— Нормально. Он знает, что не совершал никакого преступления, и, конечно, надеялся в тот момент на положительное решение вопроса о его деле.

**— Гарри Петрович, теперь и вы знаете, чем закончились эти переговоры. Ваши комментарии можно услышать?**

— На мой взгляд, в деле Шеремета больше политики, чем юриспруденции, и поэтому мне не хотелось бы давать какие-либо комментарии.

**— Известно, что Александр Лукашенко по приглашению правительства Москвы примет участие в праздновании 850-летия российской столицы. В гости, как правило, едут с подарком. Освобождение журналистов ОРТ как раз и может стать самым приятным подарком для москвичей и всех россиян.**

— Москва — это прежде всего столица Российской Федерации, которой правит президент Ельцин. Я думаю, что Борис Николаевич рад будет узнать от белорусского президента новость об освобождении журналистов ОРТ.

**— Говорили ли Вы со своим подзащитным о его планах на будущее?**

— Конечно, Павел уверен в своей невиновности и всякий раз говорил, что после освобождения будет работать в Беларуси.

**— И последнее. Разговоры о том, что власти всерьез взялись за Гарри Погоняйло по-прежнему не прекращаются. Лицензия на адвокатскую деятельность еще у вас?**

— К счастью, да. Но 2 сентября я приглашен на заседание президиума Минской городской коллегии адвокатов, где будет рассмотрено мое очередное дисциплинарное взыскание. На этот раз поводом для наказания послужило мое выступление в суде Ленинского района города Гродно по делу Павла Шеремета.

Кстати, первое решение коллегии о вынесении мне выговора за то, что я якобы в своих интервью разглашал данные предварительного следствия по делу Тамары Винниковой, я обжаловал в суде Центрального района города Минска. И рассмотрение дела было отложено ввиду того, что прокуратура республики не предоставила материалы проверки по факту разглашения данных предварительного следствия газетами "Имя", "Белорусская деловая газета" и "Народная воля".

**Беседовала Мария НАРЕЙКО.**

***От редакции.*** Еще в минувший четверг в редакцию позвонил один известный политик и радостно сообщил: "Шеремет на свободе!". К сожалению, эта информация не подтвердилась. Но как хотелось бы, чтобы к тому времени, когда вы, дорогие читатели, возьмете в руки этот номер газеты, Павел Шеремет и Дмитрий Завадский действительно оказались на свободе.



**Стоп-кадр**



*Шагнем в мир знаний...*

### "Не адбірайце будучыню ў дзяцей!"

Днямі каля сталічнага кінатэатра "Кіеў" Таварыствам беларускай мовы імя Францыска Скарыны (ТБШ) быў праведзены пікет супраць прыніжэння беларускай мовы і закрыцця на Беларусі беларускамоўных класаў і школ. Як паведамілі ў прэс-цэнтры ТБШ, ў Мінску на сённяшні дзень не засталося ні адной беларускай школы, а са 130 школ з беларускамоўным статутам засталося толькі семнаццаць.

Падчас акцыі найбольшую ўвагу людзей прыцягнулі плакаты тыпа "Камусьці вельмі зручна, калі народ нямы", "Знявага да мовы — знявага для народа", "Незалежнасць для беларускіх школ!", "Толькі вораг аплёўвае беларускую мову", "Не адбірайце будучыню ў нашых дзяцей!".

**Марына КОКТЫШ.**

**Светская жизнь**

### Шарон Стоун хочет замуж. Опять...

Известная актриса Шарон Стоун, видимо, отчаялась самостоятельно найти очередного достойного спутника жизни. А посему, как сообщает зарубежная пресса, она не так давно заключила контракт с брачным агентством в Амстердаме, которое специализируется на так называемых "звездных браках". И уже в будущем году свой день рождения актриса твердо намерена встретить в кругу семьи — в качестве любимой жены и матери собственного ребенка. К слову, если мечты Шарон Стоун осуществятся, то ей, согласно контракту с агентством, придется раскошелиться на 100 тысяч долларов.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

Народная Воля

| Кошт | падпіскі | ____ руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____ руб. | |

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

**До окончания подписки на IV квартал остается 9 дней. Не опоздайте!**

**Вы — с "Народной волей"! "Народная воля" — с Вами!**

